У нумары: Алінка нарадзіла сына | Як трэба жыць | Зялёная Сідра

Ніва
ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА
№ 45 (300) | ГОД VII | 11 ЛІСТАПАДА 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.



БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ ІМЯ ЛЕНІНА Ў МІНСКУ.
Фота: Пётр ЧЭРНЯКЕВІЧ

КАЛІ ГАСПАДАРЫЦЬ, ДЫК З РАЗЛІКАМ.

# ПАДУМАЙЦЕ НАД СВАІМ САДАМ

На Беласточчыне налічваецца 1 мільён 650 тысяч фруктовых дрэў, якія займаюць 10 тысяч 400 гектараў, у тым ліку каля 250 тысяч новапасаджаных дрэўцаў. Пры сярэдняй ураджайнасці 50 кг. з аднаго дрэўца — атрымліваем у год 70 тыс. тон садавіны, у той час, калі агульнае запатрабаванне ваяводства дасягае 73.800 т. Як бачым, дэфіцыт значны — тым больш, што прыведзеныя даныя з'яўляюцца толькі прыблізнымі. Каб пакрыць гэты недахоп, вы даткоўваюцца цяжкія грошы на прывоз садавіны з іншых раёнаў Польшчы.

Павелічэнне плошчы садоў і павышэнне іх якасці мае першараднае значэнне для нашай сельскай гаспадаркі. Гатункова, добра дагледжаны сад дае 40—60 тыс. зл. чыстага даходу з гектара. Прыкладна, у Варшаўскім ваяводстве ў многіх аколіцах гаспадары наогул заняліся толькі садаводствам (пав. Груец). У параўнанні з імі, як жа мізэрныя выдаюцца нашы сады. Напрыклад, у аколіцы вёскі Белаеусы на Сакольшчыне кожны гаспадар мае, прынамсі, па 30—40 дрэўцаў (некаторыя нават па 450), але мала дбаюць пра іх. У выніку атрымліваюць фрукты, прыдатныя для промыслу, а не да непасрэднага спажывання. Таму ўсяго 15—20% садавіны ў маштабах ваяводства прыдатна да непасрэднага спажыцця — для гандлю.

Ва ўраджайныя гады (парыстыя) зноў узнікае праблема закупкі садавіны. Тады цэны раптоўна змяншаюцца да 40—50 гр. за кілаграм. Каб пазбегчы гэтага, неабходна звярнуць увагу на:

— правільную падборку гатункаў,

— рацыянальнае ўгнаенне і догляд,

— апырскванне хімічнымі прэпаратамі супроць шкоднікаў,

— рэгуляванне пладавітасці.

Правільная падборка гатункаў, з'яўляецца асноўным у садаводстве. Гандлёвы сад павінен мець 3—4 гатункі.

Пасля доўгіх доследаў удакладнена, што ў нашых умовах найбольш адпаведнымі з'яўляюцца — Аберландская, Малінавая, Банкрофт, Бікен, Прыгожая з Рэпт, Ірландскі Графштынак, Жоўтая Аліўка, Лэльсы. Усе яны смачныя, добрыя для перахоўвання, устойлівыя на змены тэмпературы, не загніваюць.

На жаль, дагэтуль яшчэ пераважаюць летнія гатункі, якія, перадусім, немагчыма перахоўваць праз доўгі час. Змяніць гатункі можна праз грышчэпы. Аддзелы сельскай гаспадаркі, сельскагаспадарчыя гуртки і агародніцкія спулдзельні штораз больш арганізуюць у вёсках паказовыя прышчэпліванні. На працягу бягучага года ў час паказаў прышчэплена звыш 2 тыс. дрэўцаў. У нашых умовах прышчэпка з'яўляецца найслушнейшай формай паляпшэння гатунковасці садоў. (Бо ў Галандыі, напрыклад, выкарчаваны ўсе дрэўцы неадпаведных гатункаў, а на іх месца пасаджаны новыя, таму што прышчэпкі пачынаюць даваць плады не раней як за 3—4 гады.

Плануецца пасадка па 100 тыс. фруктовых дрэўцаў штогод. У час шумных асенніх кірмашоў часта сустракаем гандляроў саджанцамі невядомага паходжання. Пара ўжо прыпыніць такі гандаль, тым больш, што ў дзяржаўных гадавальніках пастаянна застаецца нераспраданай вялікая колькасць высокагатунковых фруктовых саджанцаў.

Рацыянальнае ўгнаенне і догляд рашуча ўплывае на ўраджайнасць і якасць пладоў. Сад неабходна штогод угнойваць штучнымі ўгнаеннямі і раз у 3—4 гады натуральным гноем.

Недахоп у глебе азоту выяўляецца ў скарачэнні перыяду вегетацыі, слабым росце і пажоўклымі лісцямі. Нельга аднак даць замнога азотавых угнаенняў, бо ў такіх выпадках дрэва стаецца празмерна буйным і слаба ўстойлівым на маразы. Ва ўраджайныя годы азотавыя ўгнаенні ўжываем не толькі перад зацвітаннем, але і пасля цвіцення. Такім чынам, можна паменшыць ваганні ў пладавітасці паміж парыстымі і непарыстымі гадамі.

(Працяг на стар. 4)



Дзядзька Антон сядзеў на перадзе прасторнай залы.

# СПРАВУНАК ЗА 400 000 ЗЛОТЫ

Новенькія, яшчэ пахнучыя свежай смалой дошкі сцэны цяжка заставалі ад тупату танцуючых, а паветра зазмільгацела разнаколернымі спадніцамі, вірнючымі накшталт парасонаў высока над каленямі.

Танцораў адразу змяніў хор, а пасля хору невялічкі хлапчук выступіў з чытаннем верша. Праграма мастацкай самадзейнасці выконвалася планава. Гарцэры 21-ай дружыны ім Кароля Сверчэўскага і члены Саюза сялянскай моладзі з Дубін у Гайнаўскім павеце дэманстравалі свае мастацкія здольнасці з выпадку адкрыцця новай святліцы ў іх вёсцы.

Дзядзька Антон Данілюк, які на сваім васьмідзесяцігадовым жыцці бачыў ужо не адно дзіва, ад захаплення аж адкрыў шырока рот і штораз мармытаў пад носам:

— Цуд, сапраўдны цуд!.. Такі гмах!.. Так танцуюць! Ай-ай, дажыў я часоў, дажыў!..

Дзядзька Антон сядзеў на перадзе прасторнай залы. Але не ўсім прысутным было аж так выгадна. Надта ж многа жыхароў Дубін гэтага дня сабралася ў новаадкрытай святліцы, і не ўсім хапіла месца сесці. Прышлі паглядзець на вынік сваёй працы. Гэтай жа хвіліны чакалі амаль 5 год!

Усё пачалося восенню 1957 года. Старая святліца, якая памяшчалася ў паслянямецкім будынку, ужо зусім развальвалася. Яе рамонт каштаваў бы не многа менш ад пабудовы новага будынку. І тады група дубінскай моладзі паставіла прапанову аб пабудове новай святліцы. Гэтую прапанову жыва падтрымалі мясцовая партарганізацыя і сельгасгурток, а Дубінская ГРН управамоцніла яе адпаведнай пастановай.

Сельгасгурток з Дубін супольна выкарыстоўвае мясцовыя залежы будаўнічага гравію. Даход з продажу гэтага матэрыяла прызначылі дубінцы на пакупку цэменту, а ко-

(Працяг на стар. 5)

# АСЕННЯЯ ДАРОГА



Фота: К. ЛЕС

# СССР — 45 гадавіна рэвалюцыі

Як схарактарызаваць сітуацыю ў сталіцы краіны Саветаў у дні вялікага свята — 45 гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі? Перш за ўсё Масква, як і ўся краіна, жыве пад уражаннем агромных тэхнічных поспехаў. Вось толькі 5 год мінула ад запуску першага малога спадарожніка, а ўжо ў космасе знаходзіліся чатыры караблі з касманаўтамі на барту, а зараз ляціць на Марс самая магутня з усіх пабудаваных у СССР ракет. Узнікаюць рэфлексіі: як жа ж далёка Злучаным Штатам да савецкіх касмічных дасягненняў, калі ім усцяж не ўдаецца запуск ракеты на месяц?

Зрэшты і ў іншых галінах пачынаюць непакоіць амерыканцаў савецкія поспехі. Дагэтуль лічылі яны, што ім ніхто не пагражае ў галіне электраэнергіі. Вось нядаўна знаходзілася ў СССР урадавая дэлегацыя энергетыкаў ЗША, якая наведала знаходзячуюся ў будове сістэму водных электрастанцый на рэках Ангара, Ірtыш і Об. Яны былі здзіўлены. Калі ўжо апынуліся ў Вашынгтоне, дык публічна заявілі, што пры сучасных тэмпах развіцця энергетычнай сістэмы Савецкі Саюз апарадзіць ЗША у гэтай дзялянцы яшчэ ў бягучым дзесяцігоддзі!

Для нас як і для народаў Савецкага Саюза ўсебаковае апераджэнне найбольш развітых імперыялістычных краін з'яўляецца справай зусім пэўнай, вынікаючай з праграмы КПСС, прынятай год таму назад на XXII З'ездзе.

Не хапіла б нам месца, каб прыгадаць самыя тэмы спрэчак, датычачых філасофіі, гісторыі, літаратуры, мастацтва, эканоміі і другіх галін. Гэтыя палемікі займаюць цэлыя старонкі савецкіх часопісаў. Мы закранаем толькі найважнейшыя, хвалюючыя савецкае грамадства на працягу апошняга тыдня пытанні. У адным з апошніх нумараў «Праўды» з'явіўся, напрыклад, артыкул аб 45 гадавіне гістарычнага пасяджэння ЦК партыі бальшавікоў, на якім абмяркоўвалася ленінская прапанова аб правядзенні ўзброенага паўстання. Як вядома, два члены ЦК — Каменеў і Зіноўеў не толькі выступілі супроць паўстання, але таксама на старонках беспартыйнага друку выявілі гэтую важную партыйную таямніцу. «Праўда» апублікавала два лісты Леніна з гэтага перыяду: «Да таварышоў» і «Да членаў партыі бальшавікоў», у якіх крытыкаваліся Каменеў і Зіноўеў. Таксама Ленін патрабаваў выключэння іх з партыйных уладаў. Вось дагэтуль няведамай заставалася роля Сталіна ў гэтай справе. Фактам з'яўляецца, што ён сам — Сталін — быў найбольш гарачым абаронцам гэтых апартуністаў. У газеце «Рабочы шлях», якую ўзначальваў як галоўны рэдактар, Сталін змясціў у гэты час артыкул, дзе пісаў наступнае: «Мы і далей з'яўляемся салідарнымі па ідэалагічнаму пытанню»... З Каменевым і Зіноўевым.

Такім чынам бачым у гісторыі КПСС яшчэ адно абвяржэнне. Іншае абвяржэнне, хаця і датычыць справы меншага значэння, адносіцца да вядомага ў 1927 годзе фільму Айштайна «Кастрычнік». Фільм з'яўляўся экранізацыяй вядомай кнігі Джона Рыда «Дзесяць дзён, якія ўскалыхнулі свет», а яго кансультантамі былі: кіраўнік штурму на Зімовы палац Н. Падвойскі, жонка Леніна Н. Крупская і сястра Леніна М. Ульянава. У часе прэм'еры фільм не спадабаўся Сталіну і па яго загаду выразана 900 метраў істужкі. Выкінутымі аказаліся сцэны, у якіх быццам бы Ленін выступаў як чалавек «залішне ліберальны». Зараз заслужаны рэжысёр Александраў распачаў ізноў працу над вырэзанымі сцэнамі.

Калі разыходзіцца аб літаратуру, дык трэба ўспомніць аб дыскусіі над раманам І. Бандарова п.з. «Цішыня». Раман закранае пытанні, акрэсленыя тэрмінамі «скажэнні ў часе культа адзінкі». К. Паўстоўскі піша на старонках «Ізвестій», што раман Бандарова «прынялі чытачы з адкрытым сэрцам, з пачуццём удзячнасці аўтару за яго цывільную адвагу». К. Паўстоўскі крытыкуе тых усіх, «якія сустрэлі раман з вельмі горкай мінай».

— Прачытайце «Цішыню», — піша Паўстоўскі. — Калі вы з'яўляецеся чалавекам без прадузятай думкі, зразумееце адразу, якая гэта з пачуццём і шчырая кніга. З цэлай вастрынёй і сілай поўнай горычы яна прыпамінае аб тым, аб чым нельга забыць».

Пішу аб гэтым, каб даць чытачу карціну пануючай у краіне Саветаў атмасферы ў перыяд святкавання 45 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Гэта атмасфера разлічэнняў з прошлым, патрэбных у імя пабудовы самай прывабнай будучыні.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

# РАЗВІЦЦЁ НАРОДНАЙ АСВЕТЫ Ў БЕЛАРУСКАЙ ССР

Беларускі народ вякамі цягнуўся да ведаў і асветы. Але сваю мару ён могператварыць у жыццё толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года.

Ужо ў першыя гады Савецкай улады ў Беларусі пачалася арганізацыя шырокай сеткі школ, дашкольных устаноў і дзіцячых садоў.

У 1940 годзе ў БССР налічвалася ўжо 11.844 школы. дзе вучылася 1 621 529 навучэнцаў. Апрача таго, у рэспубліцы было 823 дзіцячых сада, працавалі дзіцячыя тэхнічныя станцыі, дамы і палацы піянераў, шмат дзіцячых пляцовак, піянерскія лагеры і гэтак далей.

У гады фашысцкага нашэсця гітлераўскія варвары разбурылі і спалілі ўсе школы, сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы, бібліятэкі і музеі, усе культурна - асветныя установы.

Патрэбны былі вялікія намаганні, каб залячыць раны, нанесеныя вайной. Ужо ў 1945 годзе была ўзноўлена даваенная сетка школ. У апошнія гады прыкладаліся ўсе намаганні да таго, каб закончыць усеагульную пачатковую і перайсці да ўсеагульнай сямігадовай адукацыі. Адначасова вялася праца ў напрамку далейшага расшырэння сярэдняй адукацыі.

Вялікія перспектывы развіцця асветы стварылі пастановы XXII з'езда КПСС. У Праграме партыі, прынятай XXII з'ездам, ставіцца задача рэалізаваць на працягу бліжэйшых дзесяці год абавязковую сярэднюю агульную і палітэхнічную адзінаццацігадовую адукацыю для ўсіх дзяцей школьнага ўзросту і адукацыю за восем класаў для той часткі моладзі, якая ўжо працуе ў народнай гаспадарцы і не мае адпаведнай адукацыі.

У рэспубліцы ўжо зараз створаны ўсе неабходныя ўмовы для рашэння гэтай важнай задачы. У 1962 годзе ў Беларусі налічваецца 12.441 пачатковых, васьмігадовых і сярэдніх школ, у якіх навучаецца 1 470 527 вучняў.

Акрамя таго, значная частка моладзі займаецца ў сярэдніх спецыяльных установах. (У БССР іх называюць тэхнікумамі або вучылішчамі). Толькі ў 1962 годзе атрымалі дыпломы заканчэння тэхнікумаў 13.200 спецыялістаў сярэдняй кваліфікацыі. Шырока разгарнулася ў рэспубліцы вышэйшая адукацыя. Зараз на Беларусі працуюць 25 вышэйшых навучальных устаноў, якія ў 1962 годзе выпусцілі 8.700 інжынераў, аграномаў, настаўнікаў і іншых спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі.

У 1962 годзе ў Беларусі закончаны пераход на ўсеагульнае васьмігадовае навучанне, г. зн. усе школы - сямігодкі пераўтвораны ў васьмігодкі.

Зараз вядзецца ў рэспубліцы праца ў напрамку перавядзення школ - дзесяцігодак у адзінаццацігадовыя сярэднія школы з вытворчым навучаннем. Гэтае пераўтварэнне будзе закончана ў 1964 годзе.

У Праграме партыі шмат увагі ўдзяляецца школам-інтэрнатам як вышэйшаму тыпу навучальна - выхаваўчых устаноў. Цяпер у Беларусі ўжо працуе 106 школ - інтэрнатаў, у якіх навучаецца 25.582 вучні.

Новым тыпам навучальна - выхаваўчых устаноў з'яўляюцца школы падоўжанага дня. Яны, як і школы - інтэрнаты, маюць вялікія магчымасці ў выхаванні ўсебакова развітага чалавека камуністычнага грамадства.

Вялікая ўвага ў рэспубліцы ўдзяляецца ўмацаванню навучальна - матэрыяльнай базы школы. Дзяржаўны бюджэт на 1962 год прадугледжвае павелічэнне асігнацый на народную асвету ў параўнанні з 1961 годам на 25,9 мільёнаў рублёў. Асігнаванні на капітальнае будаўніцтва ўстаноў народнай асветы адпаведна ўзраслі на 26%. Апрача таго, зараз на сродкі мясцовых улад, калгасаў і саўгасаў будуецца больш 600 школ і дзіцячых устаноў. Для навучэнцаў розных устаноў у мінулым годзе было выдана звыш 12 мільёнаў розных падручнікаў.

За апошнія гады дасягнуты значныя поспехі ва ўмацаванні сувязі школы з жыццём, у павышэнні якасці ведаў, у паляпшэнні падрыхтоўкі моладзі да практычнай дзейнасці. А самае галоўнае ў тым, што ў школьнае жыццё ў розных формах моцна ўвайшла праца. Працоўнае выхаванне становіцца цяпер кроўнай справай педагагічных калектываў.

Вялікая ўвага ў нашых школах удзяляецца выхаванню дзяцей у духу савецкага патрыятызму і сацыялістычнага інтэрнацыяналізму. Гэта праца вядзецца як пры вывучэнні асноў навук, так і ў пазалекцыйны час шляхам арганізацыі канферэнцый і літаратурных вечарын, экскурсій, выставак, гутарак і лекцый аб поспехах развіцця Савецкага Саюза і краін народнай дэмакратыі, аб міжнародным жыцці, праз пазакласнае чытанне і гэтак далей. У шматлікіх школах створаны куткі інтэрнацыянальнай дружбы, праводзяцца зборы, вечарыны, вядзецца шырокая перапіска з вучнямі школ іншых рэспублік Савецкага Саюза і замежных краін.

**МІКАЛАЙ ХАЛІПАЎ**
**Міністр асветы Беларускай ССР**

# Спорт

**Футбол.** У першай лізе змяніўся віцэлідэр. Палёнія Бытам пасля неспадзяванай нічыёй з жэшаўскай Сталяй спала на трэцяе месца і ўступіла віцэлідэрства Заглэмбю з Сасноўца. Лідзіруе па ранейшаму Гурнік Забжэ. У II лізе выразна вядуць Шамберкі. У чвэрцьфінальным матчы на кубак федэрацыі Колеяж, элцкі Мазур перамог Астровію з Астрова Мазавецкага 5:2. Другім турнірным матчам беластоцкіх футбалістаў быў фінал чэмпіянату Беластоцкай акругі для наймалодшых (трампкараў). Чэмпіёнам сталі трампкары ломжынскага ЛКС, якія ў фінальнай сустрэчы выйгралі 2:1 з гайнаўскім МКС. Гэтая сустрэча знамянальная чым іншым. У фінал увайшлі каманды раёнаў, якім у беластоцкім футболе далёка да першай ролі. Мо' якраз будучыя футбалісты паправяць гэтае становішча. Але на гэтае свята доўга чакаць. А пакуль што вяршыняй, напрыклад, футбалістаў Гайнаўшчыны з'яўляецца клас «А». Гайнаўскай Пушчы не ўдалося ўтрымацца ў лізе, а белавежскаму Зубру — трапіць у яе. Праўда, у апошнім выпадку не без віны Акруга, якой пэўныя рашэнні выклікаюць сумненні, і якія заламалі маладую каманду. Шматабяцаючы калектыў цяпер цягнецца ў хвасце класа «А» і пагражае яму выпіска і з гэтай групы. Ці патрапяць белавежцы ўзяцца ў рукі, трудна сказаць. А ім, менавіта, трэба было б гэта зрабіць. Шкада папярэдніх дасягненняў і талентаў, якіх шмат у камандзе. Тым больш, што Зубр мае абяцаючае папаўненне. Юніёры гэтай каманды летні круг класа «А» прайшлі без паражэнняў.

**Савецкі спорт.** У чэмпіянаце СССР па футболу ўмацавалі свае пазіцыі лідэры, маскоўскія каманды Дынама і Спартак. У другой групе Беларусь паднялася з 19 на 18 месца. Да канца турніра засталіся два матчы, і каб утрымаць пазіцыі беларусам трэба зрабіць максімум намаганняў, бо іграюць на полі сапернікаў, да таго адзін матч з лідэрам, маскоўскім Лакаматывам, а другі з аўтсайдэрам вільнюскім Жальгірысам, якому, здаецца, ужо нічога не паможа, але які можа яшчэ наблытаць у турнірнай табліцы. Прыпамінаем, што ў Мінску выйграў Жальгірыс.

У Ленінградзе закончылася каманднае першынства краіны па шахматах. Першае месца і званне чэмпіёна краіны ў трэці раз заваявалі шахматысты Ленінграда. На другім месцы — каманда краёў і абласцей Расійскай Федэрацыі, на трэцім — шахматысты Масквы. Чацвёртае месца заняла каманда Латвіі, пятае і шостае Беларусь і Украіна. Далей ідуць каманды Эстоніі, Літвы і Малдавіі.

Нядаўна адбылася сустрэча па фехтаванню паміж зборнымі ГДР і Беларусі. Беларусы атрымалі перамогу па ўсіх відах зброі. Варта адзначыць, што 9 беларускіх фехтавальшчыкаў з 16 з'яўляюцца кандыдатамі ў зборную СССР.

**Аут**




## Камендант Гольдрынг супрацоўнічае з Лемке

Хоць Лемке быў першым, хто прывітаў Гольдрынга ў яго новым кабінеце каменданта раёна Кастэль ла Фантэ, але нікога больш так не раззлавала гэтае назначэнне, як начальніка службы СД.

Яшчэ б! Новы камандзір дывізіі заявіў, што штаб будзе пераведзены ў Палерма, а ў Кастэль ла Фантэ застанецца толькі бальніца, склады, служба СД. Вось паўнаўладным гаспадаром раёна стаў камендант, у распараджэнні якога быў ледзь не цэлы ба-

256

тальён, тады як у Лемке не было і поўнай роты. Гэта ставіла начальніка службы СД у поўную залежнасць ад каменданта: з ім трэба было ўзгадняць планы, прасіць дапамогі пры правядзенні той ці іншай аперацыі. І ўсё гэта трэба рабіць яму, вышэйшаму чынам, чалавеку, які мае за плячыма не абыякі вопыт, урэшце старэйшаму гадамі!

Пакарыцца з гэтым Лемке было асабліва цяжка яшчэ і таму, што ён прызвычаіўся на людзей глядзець зверху. Для яго свет дзяліўся на дзве часткі: на адным баку стаялі асуджаныя, на другім — тыя, што прабывалі пад следствам. Да першых ён адносіў усіх, хто трапіў у гестапа, незалежна ад таго — вінаваты ён ці не. Да другіх — усіх, хто хадзіў яшчэ на волі. Пасля замаху на фюрэра да гэтай апошняй катэгорыі залічыў ён і ўсіх вайсковых, незалежна ад пасад, якія яны мелі, і чыну.

Асоба фон Гольдрынга выклікала ў Лемке дваістае пачуццё. З аднаго боку, ён лічыў яго чалавекам цалкам надзейным, — Гольдрынг жа быў названым сынам Бертгольда. З другога боку, Лемке лічыў Гольдрынга непрабачальным лібералам. Узяць толькі яго сувязі! Ён сябруе з цёмным Маціні, за якім давялося наладзіць штодзённы нагляд, у найбліжэйшых адносінах з гаўптманам Лютцам, чалавекам падазроным, — ад'ютант нябожчыка Еверса не мог не ведаць пра крамольныя справы свайго генерала. Урэшце, чаму Гольдрынг так непрыхільна ставіцца да намаганняў Лемке ўстанавіць з ім сяброўскія суадносіны?

257

Вось і сёння. Лемке атрымаў загад — усіх былых італьянскіх салдат, якія не ўступілі ў атрады добраахвотнікаў, вывезці неадкладна ў Нямеччыну, паколькі лінія фронту ў Італіі прасунулася бліжэй на поўнач. Аперацыю трэба было правесці на працягу ночы, тайком, каб пра яе не даведалася мясцовае насельніцтва, а тым больш партызаны. Ясная рэч, што пытанне аховы італьянскіх салдат пры такіх маштабах аперацыі стаяла асабліва востра. Вось Лемке і звярнуўся да Гольдрынга з патрабаваннем, каб той перадаў у яго распараджэнне ўсе свае наяўныя сілы. Але Гольдрынг па сутнасці адмовіў, вылучыўшы начальніку службы СД толькі роту чорнасарочнікаў.

— У мяне самога прадбачваецца складаная аперацыя, — вытлумачыў ён.

Лемке з абурэннем успамінае гэты недапушчальны, нават абразлівы тон, у якім адбывалася гэта размова. Звярнуцца да Бертгольда? А мо' паспрабаваць апошні раз паразумецца з гэтым Гольдрынгам, пагаварыць адкрыта, на поўны голас?

Лемке звоніць да каменданта.

— Гаўптман фон Гольдрынг зараз у сіньёра Лера, — адказвае перакладчыца.

Лемке кідае трубку і націскае на званок.

— Да вечара сабраць даныя пра ўсіх італьянцаў, якія працуюць у камендатуры, і асабліва пра перакладчыцу. Яна раней была пакаёўкай у замку графа Рамоні.

258

**З ЖЫЦЦЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ**

## У ЛІТОЎЦАЎ

Літоўскае грамадска - культурнае таварыства налічвае цяпер 31 гурток і каля 700 членаў. Апрача сейненскага павета, у якім дзейнічае ў асноўным літоўскае таварыства, 1 гурток працуе ў Сувальскім павеце (вёска Ксейвяны), а таксама ў Варшаве (каля 60 членаў).

На тэрыторыі, на якой жыве літоўскае насельніцтва, існуе 9 падставовых школ, у якіх вучыцца на роднай мове 372 вучні (у гэтым ліку ліцэй з 50 вучнямі), а таксама 11 школ з літоўскай мовай як прадмет, у якіх вучыцца 498 вучняў. Школы гэтыя забяспечаны падручнікамі, выдадзенымі ў Польшчы. У школьных бібліятэках знаходзіцца 3.795 томаў літоўскай літаратуры. Сярод школьнікаў працуе тарцэрская дружына, у якой каманда вядзецца на літоўскай мове.

Галоўнае праўленне ЛГКТ дагэтуль не мае сталага друкаванага органа. Выдала яно некалькі аднаднёвак.

## Зялёная Сідра



Пункт аховы здароўя ў Сідры.

Кажуць, Беласточчына мае многа цудоўных закуткаў. І гэта праўда. Але другая праўда, што закуткі гэтыя не адкрыты.

Вазьміце Сідру і аколіцы. Якое паветра, якія краявіды, колькі грыбоў летам.

Дом, які бачыце на здымку — гэта сідранскі пункт аховы здароўя з радзільнай залай. На ўзгорку, пад стройнымі соснамі, ён утульнасцю вабіць вока прахожага.

Перад вайной — гэта паляўнічы палацык барона Эйнеровіча, які прыязджаў сюды з Гродна адпачываць, паляваць па цудоўных сідранскіх лясістых аколіцах. Сідранскіх? Цяпер так кажам. Тады і сама Сідра і яе аколіцы з суседнімі вёскамі Сідарка, Крыштафарова былі ўласнасцю пана Эйнеровіча, яго маёнткам.

Пасля вайны няўмела гаспадарыў тут ПГР. Правільней, не гаспадарыў зусім. Палацык нішчэў, штораз больш хіліўся да руіны. Аднойчы шафёр Сакольскай павятовай амбулаторыі Веслаў Жултоўскі, будучы ў Сідры, пэдслухаў размову, што палацык мае быць разабраны. У Саколцы ён хутчэй данёс гэта ў Аддзел здароўя, падказваючы, што даўнейшы палацык можна выкарыстаць на пункт аховы здароўя. Словы яго палі на добры грунт. Пункт аховы здароўя ў Сідры меў быць. Заняліся гэтым. За 800 тыс. зл. адрамантавалі. Цяпер усе цешацца. 800 тыс. — гэта для такога пункту не многа. А атрымаўся ён прыгожы, прасторны, вельмі выгодны. У здаровым прыгожым месцы на пагорку, сярод узгорыстых, лясістых абшараў.



Веслаў Жултоўскі — шафёр павятовай амбулаторыі ў Саколцы.

Паляўнічы летні палацык барона Эйнеровіча — пункт аховы здароўя сялян з Сідры і аколіцы — даўнейшых панскіх вёсак.

Тэкст і фота
**Веры Леўчук**



Сідранскі краявід.

## У ЧЫЖАХ

Бадай, што нідзе на Беласточчыне столькі перамен не зайшло, колькі ў Чыжах. У гэтай вёсцы ёсць і аптэчны пункт, і вэтэрынарны пункт, і кіно, і пункт аховы здароўя. Зараз будуюцца дзве крамы і да новага года будуць яны адданы ў агульнае карыстанне. На вясну пачнецца тут будова школы і пункта аховы здароўя. Людзі жывуць у Чыжах заможна. Няма ўжо ў вёсцы хат, пакрытых саломаю. У большасці гаспадароў шмат прыгожай мэблі. Многія маюць радыёпрыёмнікі і вядома, у кожнай хаце радыёкропкі. Таксама амаль у кожнай хаце электрычны прас і плітка. Жыхары Чыжоў пачынаюць купляць ужо сціральныя машыны. У вёсцы 18 матацыклаў. Будзе іх яшчэ больш. Тыя, што збіраюць грошы на матацыклы, ходзяць на курсы. Ёсць іх 32 асобы.

(Працяг на стар. 5)

**З ПІСЕМ ЗЕМЛЯКОЎ**

## АЛІНКА НАРАДЗІЛА СЫНА

У першых словах свайго пісьма паведамляю цябе, браток, што мы ўсе жывы і здаровы, чаго і табе жадаем. Выбачай, дарагі, што так доўга не адпісваў на ліст твой, які прынёс паштальён, калі авёс жаць канчалі за прысадамі. Спяшаю напісаць хутчэй аб тым, як мая жонка Алінка сына нарадзіла. А гожанькі ўдаўся ён нам, а жвавенькі, трапешчацца безупынку, ножкамі перабірае. Мо' пойдзеш дзе-лень у крамы беластоцкія за чым-небудзь, дык пудры прыхапі з пачку. У вёсцы, сам знаеш, дошкамі забітай, вельмі ж не хапае гэтага тавару. Патрэбна пудра маленству нашаму, бо запарыцца і верашчыць на цэлую хату.

А пакуль нарадзілася яно, беданькі ўсякай ужылі. На пакрову пачулася Алінка блага, заенчыла голасам страшным. Бягу, бы яблык накраўшы, за тры вярсты да пошты ў «пагатове» званіць. Да вуха трубку прыткнуўшы, гора ўсенькае расталкаваўшы, пачуў голас сярдзіты, які сказаў, значыць, чакайце, выязджаем. Пайшоў я назад, пот на ілбе рукавом выціраючы. У хаце ўжо сваячкі, бабы гаспадарылі, мяне на вуліцу карэтку выглядаць паставілі. Няма і казаць чаго, у бабскім племені слабыя з нас героі. Стаю пакорліва ля плота, патупваючы, вочы на гасцінец вылупіўшы, ці не запыліць апонамі машына абяцаная.

Стаяў я, стаяў, ды столькі магу табе напісаць, што суседкі, свіней накарміўшы, таксама пачалі мне дапамагаць карэтку пільнаваць. Цемень вячэрняя вёску абступіла, зоркі на небе замільгалі. Апоўначы свякруха куртку прынесла, каб на сырасці не прастыў.

Потым незадоўга лаянка знаёмая данеслася з паблізу, у якой ясна гаварылася, што тырчу, быццам дурань, на ветры, тым часам жонка да ранку памерці можа. Грэх тады ўвесь на каго ж, як не на мяне зваліцца.

У сенцах цесць хамута спасобіў ды загадаў воз на панадворак вывалачы. Запрогшы як мае быць гнядога ў аглоблі, да пункту здароўя крыкнуў ехаць. Дактароў там усякіх па калідорах ходзіць, даў наказ, каб хаця аднаго з іх прыперці.

Мабыць, не ведаеш, што масток на Слоі перабудоўваюць. Пагнаўся я дарожынамі бакавымі, на досвітку перад пунктам здароўя затрымаўся. Вартаўнік вачыма залыпаў зосну і кажа:

— У нядобрую пару жонка твая радзіць збіраецца, найважнейшага дохтара ў водпуск панесла. Праўда, акушэрка яшчэ фігуруе ў нас, але спазніўся ты, разбудзілі яе нейкія людзі, у вёску другую павязлі. Дэнтыстка зноў расхварэлася, пяты дзень з ложка не вылазіць.

Зашнырылі прадчуванні нядобрыя ў сэрцы перамучаным і хацеў было фураю ў павет па «пагатове» тое накіравацца, ды міліцыянта на ганку пастарунковым згледзеў пазяхаючага. Маючы ўлады аўтарытэт на ўвазе, лямантую пацыху, што «пагатове» няшчаснае з абавязкаў сваіх не вылічылася. Для дабра агульнага няхай маладую матку паратуюць канаючую. Не скажу, хлапец бравы, да тэлефона адразу прыліп, кольбаю ўпарта круціў. І дасталася наганяй каму трэба, як след, пры асабістай маёй прысутнасці.

Як думаеш, браток, мёду спелага вартавала б сяржанту таму завезці? Добрага падарунку чалавеку шчыраму не шкада...

Кланяецца табе пляменнік Віця, бабулька Агата часта ўспамінае, і цётка Анеля з цэлаю сям'ёю гэтак жа сама.

Бывай здаровы, Колька, і на хрэсьбіны рыхтуйся. Кума стройная ўжо дагаворана.

**АДОЛЬ КАСТРЫЦА**

Дружба Гольдрынга са старым Лера таксама турбуе Лемке. Пасля няўдалага вяселля, што так сумна закончылася, Лемке двойчы быў з візітам у асабняку інжынера, але яго прынялі досыць холадна. Нават Лера не выйшаў яго прывітаць. Гольдрынгу ж дзверы асабняка заўсёды адчынены, камендант там бывае ледзь не кожны вечар. Адкуль такая дружба паміж маладым афіцэрам і старым інжынерам?

Лемке звоніць на кватэру Лера і просіць паклікаць барона фон Гольдрынга.

— Нешта здарылася? — у голасе каменданта гучыць занепакаенне.

— Нічога асаблівa. Але я хацеў бы вас сёння бачыць у адной неадкладнай справе.

— За паўгадзіны я буду ў сябе! — коратка адказвае Гольдрынг.

«Нават не спытаў, ці магу я ў гэты час прыйсці да яго!» — злуе Лемке.

Але абставіны прымушаюць начальніка службы СД праглынуць абразу. Роўна за паўгадзіны ён у камендатуры.

Гольдрынг ужо прыйшоў ад Лера і, чакаючы на Лемке, праглядае газеты.

— А нашы войскі добра наваліліся на англа - амерыканцаў у Ардэнах! — кажа Генрых замест прывітання. — Чыталі сённяшнія газеты?

— Не паспеў. Надта многа работы.

— А такія рэчы нельга прапускаць. Яны дадаюць

259

энергіі! Тым больш, што апошнім часам нас не часта цешаць прыемнымі весткамі.

— Думаю, што нашы ФАУ-2 прымусяць Англію выйсці з вайны... Але я прыйшоў пагаварыць пра рэчы куды бліжэйшыя, чым падзеі ў Адэнах.

— Якія ж для афіцэра могуць быць найбліжэйшыя падзеі? Толькі падзеі на фронце!

— Гэта гульня словамі, Гольдрынг!

— Фон Гольдрынг! — папраўіў Генрых.

— Фон Гольдрынг, калі вам так хочацца... Але я прыйшоў не спрачацца, а пагаварыць як афіцэр з афіцэрам.

— Слухаю вас, гер Лемке.

— Мне здаецца, што нашы з вамі суадносіны шкодзяць службе, барон.

— Маёй ніколькі.

— А маёй шкодзяць, і вельмі. Я звяртаюся да вашага пачуцця адказнасці перад фатэрляндам і фюрэрам. Мы перажываем надта цяжкія часы, калі..

— А можа мы абыдземся без пропаведзі?

Лемке прыкусіў губу ад абразы.

— Гер фон Гольдрынг, я раблю апошнюю спробу паразумецца. Калі наша размова не дасць належных вынікаў, я вымушаны буду паскардзіцца на вас. Папярэджваю пра гэта чэсна.

— Гэта ваша права і абавязак. Але я хацеў бы ведаць, чаго вы ад мяне хочаце?

260

— Згоды ў рабоце.

— Я таксама хачу гэтага...

— Не прыкмеціў. Ваша варожасць да мяне асабіста, хоць я не ведаю яе прычын...

— Не ведаеце прычын? Не прыкідвайцеся нявінным ягняткам!

— Мяне здзіўляе ваш тон і незразумелыя намёкі. Мо', вы вытлумачыце, у чым рэч?

— Нават прывяду рэчавыя доказы!

Генрых выняў з кішэні мундзіра пісьмо, атрыманае тыдзень таму ад Лорхен, і пачаў уголас чытаць:

«Не выяўляй мяне перад бацькам — я тайком прачытала пісьмо, якое ён прыслаў маме. Я б і табе не прызналася ў гэтым, калі б так не ўсхвалявалася. Мяне пачынае непакоіць гэтая графіня Марыя-Луіза, у замку якой ты жывеш. Бацьку пішуць, што яна маладая і прыгожая, і цябе бачаць з ёю. Мабыць, праз яе ты так доўга і не едзеш...»

— Як па-вашаму, Лемке, калі б я напісаў такое вашай жонцы, вы б адчувалі да мяне вялікую прыязнь?

Лемке пачырванеў.

— Я пісаў пра гэта не вашай нарачонай, а генералу Бертгольду.

— І вы лічыце гэта годным афіцэра?

— Гер Бертгольд паставіў мне гэта за абавязак.

— І вы лічыце, што, пішучы паклёпы... вы ж ведаеце пра суадносіны графіні і Штэнгеля...

261

## Калектыўная праца — лепшая будучыня

Не толькі з кожным годам, амаль з кожным днём змяняецца жыццё гаспадара. Яго праца становіцца больш карысная, дае лепшыя вынікі, пры тым у гаспадара застаецца больш вольнага часу на ўласныя патрэбы. Але гэтага можна дасягнуць толькі тады, калі праца гаспадара механізавана. Вядома, што машына тую працу выканае хутчэй і лепш. Яшчэ не так даўно гаспадар жаў сярпом, гнуўшы спіну, ды цэлую зіму малаціў збожжа цэпам, а зерне выносіў за нагамі на двор. Сёння пры вялікай механізацыі гэта не спатыкаецца, бо гаспадар зразумеў, што толькі машына палепшыць яго жыццё і дасць магчымасць лепшага адпачынку. І дзеля гэтага ў нашай дзяржаве сяляне аб'ядноўваюцца ў сельгасгурткі, каб тым самым набыць сельскагаспадарчыя машыны. З цікавай праблемай спаткаліся жыхары Бацют — калёніі, Лапскага павета. Калі прыходзіў тэрмін абавязковых дастаў збожжа для дзяржавы, яны не мелі чым малаціць. Хаця ў Бацютах - калёніі ёсць прыватны малацільны агрэгат, гэта не ратавала сітуацыі. Бо вядома, што адзін агрэгат не абмалоціць у 40 гаспадароў нараз. А Несцярэўскі, які мае камбайн і трактар, не вельмі хоча ісці ў заработкі, бо мае шмат сваёй працы. І тут узнікла думка арганізаваць сельгасгурток і ўзяць машыны.

12 кастрычніка г. г. быў арганізаваны сход. Прыбыў прадстаўнік сельгасгурткоў з павету тав. Нівінскі, аграном Семянюк, прышлі сяляне, хаця не ўсе, бо значная частка з іх працуе на дзяржаўных работах. Аднак, нягледзячы на гэта, сход адбыўся і на ім былі парушаны вельмі цікавыя пытанні аднос-

(Працяг на стар. 7)



## МЕЛІЯРАЦЫЯ ПАЛЁЎ

На Беласточчыне праводзіцца меліярацыя не толькі сенажацяў, але таксама і палёў. Меліярацыйная брыгада, якую ўзначальвае Уладзімір Курыяновіч, правяла дрэнаж на 4 га зямлі ў спулдзельні прадукцыйнай у Дабрамілю, на 23 га ў Пілiпках (Бельшчына) і на 37 га ў Секлюках у Сямяцiцкім павеце. Зараз гэтая брыгада праводзіць меліярацыю на 84 га ў вёсцы Чыжы на Гайнаўшчыне. У мінулым годзе змеліяравана тут 53 га зямельных угоддзяў. Гэтыя мерапрыемствы прычыняцца да значнага паляпшэння ўраджайнасці палёў.

На здымку: меліярацыйная тэхніка на палях вёскі Чыжы.

м.х.

## Падумайце над сваім садам

(Працяг са стар. 1)

Недахоп фосфару выяўляецца ў слабой устойлівасці дрэўцаў на марозы, хваробы і супроць шкоднікаў. Калійныя (патасовыя) ўгнаенні прыдаюць садавіне сакавітасць і прыгожы выгляд. Арыентацыйная норма штучных угнаенняў на гектар саду наступная: 500 кг азотавых угнаенняў, 600 — 700 кг калійных і 500 — 600 кг фосфарных угнаенняў.

Трэба штогод прарэжваць кроны дрэў — мацней ва ўраджайныя гады. Надта густыя кроны з'яўляюцца найчасцей прычынай вядомай хваробы — парха. Яблыкі ці грушы растуць малымі і нясмачнымі.

Барацьба супроць хвароб і шкоднікаў не прадстаўляе якіх - небудзь сур'ёзных цяжкасцей. Існуючыя станцыі аховы раслін і ПОМ-ы маюць адпаведную апаратуру і спецыялістаў, якія заўсёды могуць правесці апырскванне. Здаецца, усё ў парадку. У сапраўднасці аднак гаспадары рэдка карыстаюцца іх паслугамі. Проста, недааацэньваюць патрэбы пастаяннай апекі над садам. Апырскваюць дрэвы хімічнымі прэпаратамі ў найлепшым выпадку два разы ў год замест 4—5 разоў. Зразумела, узнікаюць пасля нараканні, расчараванні. Прамысловасць выпускае селектыўныя хімічныя сродкі, якія знішчаюць адначасова па некалькі хвароб, шкоднікаў.

Успомненыя станцыі, а таксама ПОМ-ы падпісваюць дагаворы на пастаяннае апырскванне саду, гарантуючы прытым добрае і тэрміновае выкананне прац.

У парыстыя гады ўзнікае праблема з продажам садавіны. Б'ецца трывога, што дрэнна арганізаваны гандаль або замнога маем садоў!? Хаця ў гадах неўраджайных гэты самы гандаль вымушаны ўжо ад ранняй восені прывозіць фрукты з другіх ваяводстваў... Узрастаюць цэны, людзі абмяжоўваюцца ў спажыцці яблык, груш і г.д.

Як пісаў я ўжо на пачатку, садавіна ў нас наогул дробная — прамысловая. Каб унікнуць гэткіх парадоксаў трэба рэгуляваць пладавітасць садоў. Таму неабходным з'яўляецца правільнае ўгнойванне і прарэжванне кроны, цвету і завязей. Правільнае ўгнойванне аказвае выразны ўплыў на рэгуляцыю пладавітасці. Ва ўраджайныя годы дрэвы патрабуюць многа кармавых рэчываў і таму змяншаецца іх устойлівасць на маразы, бо ў наступным годзе, як гаворыцца, набіраюць сілы. Таму ўгнойваць абавязкова трэба штогод. Азотавае ўгнаенне неабходна даць не толькі перад цвіценнем, але і пасля цвіцення, таму што спрые яно развіццю пупышак, якія будуць цвісці ўжо на другі год. Зноў ва неўраджайныя гады азотавае ўгнаенне, даванае перад цвіценнем, прымушае да больш буйнага і шматлікага цвіцення. Такім чынам атрымліваецца пэўнае «выраўнанне» інтэнсіўнасці цвіцення ў парыстых і няпарыстых гадах.

Апрача гэтага, патрэбна прарэжваць цвет і завязі. (На 20—30 лісткоў пакідаецца адна здаровая завязь.) Частковае знішчэнне цвету (для выраўнання пладавітасці) можна правесці хімічнымі прэпаратамі крэзатолем і нафталенавоцатавым квасам. Апырскванне крэзатолем пры гушчыні 0,2% праводзіцца ў той час, калі больш цвету ўжо ападае. Нафталенавоцатавы квас («Памоніт») ужываем на частковае знішчэнне празмернай колькасці завязей, (у 3—10 дзён пасля цвіцення). Падрыхтоўваць яго трэба ў прапорцыі 10—15 таблетак на 100 літраў вады.

Добры сад — гэта вялікае багацце.

МІКАЛАЙ ГАПУНІК

## Па слядах балагану

Доўгія рукі маюць бельскія будаўнічыя фірмы. Вядуць работы нават у суседніх паветах — Гайнаўскім, Сямяціцкім. Як бачым, тэрыторыю загарнулі немалую, ды відаць, цяжка пераварыць яе. З году ў год штораз горш адчуваюць сябе. Моцна нездаровіцца ім!

Леташнія планы выканана трохі больш палавіны (за тры кварталы!). Будзь цяпер разумнейшым ад самога Саламона, дык усё роўна за пару асенніх месяцаў не зробіш другой палавіны — няхай нат' крыху меншай. І падумаць толькі, што яшчэ ў мінулым годзе з рэалізацыяй намечаных прац было шмат лепш, каб не сказаць, непараўнальна лепш.

Кажуць, летась удвая павялічыліся іх заданні, вартасць якіх перавышае дваццаць мільёнаў злотых. Затое работнікаў набрана два разы менш чым патрэбна — не знайшлося ахвотных. Пусцілі дадаткова ў рух машыны, якія штодзень давозяць з Плёсак і Кленік каля паўсотні людзей. Такое вырашэнне, што праўда, каштоўнае, але тапелец і за брытву хапаецца.

Ваяводства абяцае зноў падвоіць заданні на наступны год. А дзе ж раздабыць працоўнай сілы?! Рабочая канферэнцыя — КСР раіць правесці набор работнікаў на зіму ў аколіцах Мілейчыц, Нурца і Клюковіч. Убогія там вёсачкі, пэўна, не паганьбуюць работай на будовах. Прытым, узяўшы тых людзей на зіму, калі нялёгка з усякай працай, дык ёсць надзея, што з надыходам вясны — новага будаўнічага сезона, застануцца і надалей працаваць. Зрэшты, хто ведае, каб яшчэ падвучыць такое зборышча на курсах, даць сяму - таму канкрэтную спецыяльнасць, а ўслед за гэтым і павысіць заробак, магчыма, удалося б утаймаваць пошукі маладых хлопцаў і дзяўчат за лепшымі заробкамі. Пачуліся б сільней, пачалі б абжывацца, заводзіць сем'і. Прадпрыемства сталася б іх жыццёвай перспектывай.

Чаму аб гэтым раней не падумана, невядома? У кожным выпадку цяжка тут дашукоўвацца перашкод у фінансах. Выдаткі на такія курсы заўсёды апраўданы. У сучасны момант, напрыклад, ёсць 29 цесляроў, а спатрэбіцца восемдзесят. Налічваецца ўсяго тры печнікі на неабходных дзесяць; маецца 38 муляроў, а да зарэзу трэба аж 110.

Тады нічога дзіўнага, што дажыліся мы гэтакіх «гістарычных» аб'ектаў, як будова гандлёвага дома ў Боцьках, якая пачалася ў 1959 годзе і па сённяшні дзень не закончана. Блага выглядаюць будовы аграномовак у Пасынках, Піліках, Андрыянках. Цэлая гісторыя склалася з будовамі ПОМ-аў у Бацiках Сярэдніх (Сямяціцкі павет) і Кляшчэлях у Гайнаўскім павеце. Беданька з пабудовай надлясніцтва Старына на Гайнаўшчыне. Зрэшты, хопіць сказаць, што нават шопу для ўласных патрэб будаўнічае прадпрыемства будавала сабе не менш і не больш, як 2 гады! Няма чаго плакаць, што нехта чужы не можа дачакацца канца будовы заказанага аб'екта...

Даведваемся аб больш загадкавых фактах. Вось, хаця б, прадпрыемства тэрэновага будаўніцтва не разлічылася з пабраных матэрыялаў за 1961 г. Не ўспамінаючы ўжо аб абавязку праведзення такога разліку на працягу не пазней шасці тыдняў. У святле вышэй сказанага зусім становіцца незразумелым тое, што гэтае прадпрыемства махнула рукою на падобныя разлікі за 1960 г. Значыць, бяры-дзяры, хто колькі і як зможа ды паспее!?.. Навошта ж тады бубніць усім навокал аб ашчаднасці сродкаў і зніжэнні коштаў вытворчасці? Ці ж толькі таму, каб штосьці напісаць у гадавой справаздачы?

Страх падумаць, што ў 1963 г. дадуць Бельску 50 мільёнаў на будаўніцтва, а пад канец пяцігодкі — 70 мільёнаў. Ведаем, будуць апраўдваць сваю слабасільнасць недахопам адпаведнага транспартнага парку, нетэрміновым выкананнем тэхнічнай дакументацыі праектным бюро, а нават і тым, што банк даў грошы, не пытаючы аб дакументацыі, за што ўлады зрабілі пасля авантуру і ўстрымалі рэалізацыю недакументаваных аб'ектаў. Рацыя і не рацыя. Мільён цяжкасцей і перашкод. Згодна з пагаворкай будаўнікоў — «без паўбутэлькі не разбярэш». Хто вінаваты, у чым і за што?

АЛЯКСАНДР АНТАШЭВІЧ

## Хоць ратунку крычы!

— Гер Бертгольд, відавочна, не так мяне зразумеў. І калі гэта даводзіць да такіх непаразуменняў, даю слова афіцэра, што ніводнага радка пра вас...

— На слова афіцэра пакладаюся. Мне скрываць няма чаго, але нагляд за кожным маім крокам я лічу абразай сваёй годнасці...

— Я цалкам вас разумею.

— Добра, будзем лічыць, што па гэтым пытанні мы дамовіліся. Цяпер пра іншае... Дык чаго вы ад мяне хочаце?

— Поўнай згоды і ўзаемадапамогі.

— Канкрэтна?

— Сёння ноччу я павінен адправіць батальён былых італьянскіх салдат з Кастэль ля Фантэ ў Іўрэі.

— Што вам для гэтага патрэбна?

— Апрача роты чорнасарочнікаў, якую вы мне абяцалі, яшчэ хоць адзін узвод нямецкіх салдат.

— Бярыце парашутыстаў.

— Я не давяраю гэтым балерынам.

— Добра, даю ўзвод нямецкіх егераў.

— Сапраўды, барон? Дзякую! Я думаю, што гэта пачатак нашых новых узаемаадносін!

Лемке моцна пацісную руку Генрыха.

— Камандзіраў я вам прышлю зараз у вашае распараджэнне.

262

— Але не кажыце ім нічога пра заданне. Яны не павінны ведаць пра аперацыю да яе пачатка.

— Цалкам зразумела.

— А вы не збіраецеся ўзяць удзел у прагулцы да Іўрэі?

— Гэта не мой раён.

Не заязджаючы дамоў, Генрых проста з камендатуры паехаў да Лера, размову з якім так неспадзявана спыніў Лемке.

— Слухай, Курт, — папярэдзіў дзяншчыка Генрых дарогай, — я абяцаў сіньёру Лера заначаваць сёння ў яго, ён недамагае. Але калі ноччу з Іўрэі пазвоніць Лемке, скажаш яму, дзе я.

— Ці ж гер Лемке ў Іўрэі? Я яго бачыў...

— Ён сёння вывозіць туды італьянскіх салдат.

— А яны не паўцякаюць?

— З-пад такой аховы? Апрача сваіх эсэсаўцаў, Лемке выпрасіў у нас роту чорнасарочнікаў і ўзвод нямецкіх салдат. — Генрых адвярнуўся, каб схаваць усмешку. Курт ужо некалькі раз пытаў яго пра італьянскіх салдат, і Генрых разумеў, што робіць ён гэта па даручэнні Лідзіі.

(Працяг за тыдзень)

263

# Справунак за 400 тыс. зл.



Гаспадару павета, намесніку старшыні, тав. Міхаілу Шпаковічу выпаў гонар урачыста адкрыць новую святліцу ў Дубінах.



Будынак каштаваў 400 тыс.

(Працяг са стар. 1)

жны гаспадар абавязаўся даставіць па два кубаметры камення. За правільным ходам цэласці прац сачыў камітэт будовы пад кіраўніцтвам Мікалая Галёнкі. Такім чынам ужо да зімы 1957 года быў заложаны фундамент пад святліцу, а ў наступным годзе крыху дапамог аддзел культуры ў Гайнаўцы. Грошы (40 тыс. зл.) аддзела культуры дазволілі вывесці мур да акон. Будучы кшталт святліцы зарысаваўся зусім выразна. Але тады насталі два худыя гады. Ніхто не мог знайсці ані гроша на далейшае фінансаванне будовы. Справа змянілася ў 1960 годзе, калі будову святліцы ў Дубінах пераняў Ваяводскі аддзел культуры.

Цэлы будынак каштаваў каля 400 тыс. зл. З гэтай сумы на долю дубінцаў прыпадае не менш 120 тыс. Яны ж ад першай лапаты зямлі пры капанні фундаментаў аж да разсадкі кветак ля пад'езду неадлучна ўдзельнічалі ў стварэнні сваёй святліцы, сцены якой замацавалі не толькі ўласным цэментам, але і потам, і энергіяй сваіх мускулаў. Можна тады без перагібу сцвердзіць, **што жыхары Дубін самі пастараліся для сябе зрабіць гэты каштоўны справунак.**

Зразумела, не ўсе беглі да працы пры будове святліцы, як мухі да мёду. І тут асабліва праяўляецца заслуга найбольш актыўных арганізатараў. Да іх ліку перш за ўсё трэба залічыць Мечыслава Валенду, — старшыню Дубінскай ГРН, сакратара мясцовай партарганізацыі — Арсеня Койлу і старшыню гуртка ССМ — Яна Браслаўскага. Гэта яны найчасцей хадзілі ад хаты да хаты і арганізавалі людзей да працы, яны ж дабіваліся ў вышэйшых улад. З працы сялян, з іх намаганняў вырас гэты прыгожы гмах з вялікай залай, з бібліятэкай і сцэнай.

Святліца без жывой дзейнасці людзей, як вулей без пчол. Можна спадзявацца, што святліца ў Дубінах не будзе пустым, сумным вуллем. Ужо зараз ёсць асновы будучага мастацкага калектыву. Тут адкрываюцца вялікія магчымасці для настаўнікаў і членаў гуртка ССМ. Пакуль што ў вялікай зале будуць дэманстравацца раз на тыдзень кінафільмы.

За некалькі месяцаў, калі распачне працу беластоцкі тэлеперадатчык, дзядзька Антон Данілюк задзівіцца яшчэ мацней, пабачыўшы на сярэбраным экране, напрыклад, тое, што гэтага ж самага вечара дзеецца ў Маскве. Радыётэлевізар для Дубін падарыла Павятовая Рада ў Гайнаўцы.

Жадаем дубінцам прыемнага адпачынку ў іх новай святліцы.

(вр)

Фота: Сяргей Грыневіцкі



Першыя танцавальныя крокі на новай сцэне. Танцуюць гарцэркі з Дубінскай пачатковай школы.

# ПАЭТ — АМАТАР

Якіму Галабурдзе ўжо 72 гады. Магчыма, дзіўны збег акалічнасцей прымусіў яго, простага селяніна, які недзе ў пачатку 20-га стагоддзя скончыў царкоўна-прыхадскую школу ў Нараўцы, на старасці год пачаць пісаць вершы. Тры гады таму назад Якім Галабурда апынуўся ў Беластоку, дзе пачаў працаваць вартаўніком. Прывыкшыя да працы сялянскія рукі не маглі сядзець бяздзейсна. І вось у вольныя ад працы хвіліны Галабурда ўзяўся за пяро. І піша, піша, піша. Па-беларуску, па-руску, па-польску. Ён мае ўжо шмат запісаных сшыткаў. Хаця ў большасці яго вершаў яшчэ моцна адчуваецца няўпраўная рука паэта-аматара, усё ж вершы, напісаныя ў асноўным на сялянскую тэматыку, падкупляюць глыбінёй свайго сэнсу; у іх аўтар імкнецца выказаць свае назіранні над жыццём, свае ўспаміны, перажыванні. А той факт, што аўтар амаль усё сваё жыццё правёў на ўлонні прыроды, сярод такіх жа сялян, як і ён, (бо паходзіць з вёскі Альхоўка, што на Гайнаўшчыне), толькі спрыяе гэтаму.

Нам хацелася б пажадаць Якіму Галабурдзе далейшых поспехаў у яго літаратурных вопытах, пажадаць, каб не астываў яго малады запал да паэзіі. Ніжэй друкуем верш Якіма Галабурды «Сыну»:

**Можа лепш бы было,**
**Каб стары жабраваў,**
**Гаспадарку прапіў,**
**Свайму сыну не даў.**

**Бо на старасць сабе**
**Трохі быў прыхаваў,**
**Дык не брыдка ж табе,**
**Што ты й тое забраў?**

**Ты забраў і спажыў,**
**І не хочаш мне даць —**
**Я ж табой толькі жыў**
**І хацеў сынам зваць.**

**Я б табе ўсё аддаў —**
**Сэрца, душу сваю,**
**Я ж цябе гадаваў**
**На замену сваю.**

**Ты забраў і спажыў,**
**І старому не даў,**
**Але я ўжо забыў —**
**Зноў бы сынам назваў...**

# У ЧЫЖАХ

Сельскагаспадарчыя машыны аблегчылі працу гаспадароў. У вёсцы шмат касілак, якія выкарыстоўваюцца і да кашэння траў і да жніва збожжа. Жалезны воз і цэп аджылі свой век. Сельскагаспадарчы гурток таксама багаты сельскагаспадарчай тэхнікай. Мае ён два трактары з цэлымі камплектамі сельскагаспадарчых машын, а таксама тры малацільныя агрэгаты.

Пры сямікласнай школе існуе сельскагаспадарчая школа. У першым класе там 23 асобы, а ў другім 18. Юнакі і дзяўчаты авалодваюць сельскагаспадарчымі ведамі, якія дапамогуць ім атрымліваць яшчэ лепшыя вынікі на сваіх палях і ў развіцці жывёлагадоўлі.

Трэба адзначыць і тое, што члены сельскагаспадарчай школы належаць да мастацкага гуртка, які пад кіраўніцтвам настаўніцы Гэнрыкі Кульчаковіч штогод у сваёй і суседніх вёсках выступае з цікавым, пераважна беларускім рэпертуарам.

м.х.

# Вейкі з Падазеранамі...

...дамагаюцца дазволу на выпас жывёлы ва ўрочышчы Рыбінаўка. Як паведамілі нас улады, міністэрства згадзілася з патрабаваннем гэтых бедных пашаю вёсак. Аднак неабходна будзе абгарадзіць пасбішча ад рэшты лесу жэрдкамі, якія можна закупіць у валілаўскім надлясніцтве. Тым не менш у будучым пачнецца тут здабыча торфу, і Падазераны з Вейкамі зноў застануцца без пашы. Непацешаным гаспадарам раім сур'ёзна зацікавіцца ўжо цяпер упарадкаваннем запушчаных сенажацяў.

Наогул, дазвол на выпас жывёлы ў лесе выдаецца толькі найбяднейшым асобам — удовам, сіратам, беззямельным, інвалідам.

(ся)

ВІНЦУК САВА

# ЯК ТРЭБА ЖЫЦЬ

Жыў-быў кароль, які славіўся мудрасцю на ўвесь свет. Але ад няшчасця і найразумнейшы не выкруціцца. Кароль захварэў. З усёй дзяржавы былі склікання доктары, але ніякія лекі каралю не памаглі.

Тады кароль загадаў наладараць вярблюда золатам і паслаў сваіх слуг да слаўнага чараўніка, які жыў за сямю гарамі і за сямю рэкамі.

Прыехаў чараўнік, агледзеў караля, у чорнай кніжцы пачытаў і галавой паківаў.

— Няма табе рады, мудры кароль, — сказаў ён, — не больш як год пажывеш на гэтым свеце.

Засумаваў кароль. Вядома, нікому на той лепшы свет не пільна, хоць бы гэта быў сам святы. Але нічога не зробіш. Пачаў кароль раздумваць, як найлепш пражыць час, які яму астаўся.

Тры дні і тры ночы думаў кароль. На чацвёрты дзень паклікаў свайго маршалка.

— Пашлі слуг, хай затрымаюць на вуліцы і прывядуць да мяне першых пяць мужчын, якіх спаткаюць.

— На што табе, кароль, гэтыя людзі? — спытаў маршалак.

— Я прыгавару іх на смерць.

— За што? — здзівіўся маршалак.

— Хочаш сабаку ўдарыць — кій знойдзеш, — адказаў кароль, — ідзі выконвай мой загад.

Маршалак падняў руку, каб пастукаць сабе пальцам па ілбе, але прыпомніў, што стаіць перад каралём, а кароль заўсёды паступае слушна.

«Хвароба на галаву пала», — падумаў ён і пайшоў выконваць загад.

Незадоўга перад абліччам караля стаяла пяць мужчын. Першы быў рабочы, другі купец, трэці ўраднік, чацвёрты мастак, пяты злодзей, які па адбыцці кары выйшаў толькі што з турмы і разглядаўся па горадзе, ці ўсё ляжыць на сваім месцы.

— Што б ты зрабіў з грашыма, калі б я табе даў 100 тысяч злотых? — звярнуўся кароль да рабочага.

— Ты, кароль, толькі браць умееш, а не даваць, і таму няма чаго балбатаць па пустому на гэту тэму, — адказаў рабочы.

— Бунтаўшчык! Як смееш ты абражаць свайго караля! Я прыгаварваю цябе за гэта на смерць!

— Вось гэтага дык па табе можна было спадзявацца, — заўважыў рабочы.

Кароль разумеў, што рабочы сказаў праўду. І таму ледзь не раззлаваўся сур'ёзна. Аднак, заняты сваёй думкай, ён пусціў міма вушэй гэту вострую заўвагу.

— А ты што зрабіў бы? — спытаў ён купца.

«Я не буду такім дурнем, — падумаў купец, — пакорнае цялё дзве маткі ссе. А мо' і сапраўды кароль думае даць 100 тысяч зл.» — і лісліва адказаў каралю:

— Я пабудаваў бы розныя прамысловыя прадпрыемствы і вырабляў бы тавары, якія ўзбагацілі б тваё каралеўства і расславілі б яго на ўвесь свет.

— Ілжэш ты! — адказаў кароль. — Прыкідваешся, што клапоцішся аба мне, а думаеш пра сваю кішэню. Ты нават падатку чэсна заплаціць не хочаш, а ўкрываеш перад маімі ўраднікамі свае даходы. За гэтыя круцельствы і для прыкладу іншым прыгаварваю цябе на смерць.

«Кароль не любіць, калі яму ілгуць, і таму скажу яму праўду, можа мая шчырасць парушыць яго», — падумаў мастак і, калі кароль звярнуўся да яго, сказаў:

— Я б так загуляў, што ўсё кругом ходырам пайшло.

— Нікчэмны ты чалавек, — сказаў кароль, — што б было, калі б ўсе мае падданыя гэтак паступалі. Не варты ты, каб жыць у маім кара-

(Працяг на стар. 8)

## ГОРАД МАЛАДОСЦІ



**Шчэцін залічваецца да найбольшых портаў на Балтыцы. Б'е рэкорды таксама ў натуральным прыросце. Шчэцін расце і як горад. З кожным годам ён прыгажэе і набірае ўсё большага размаху. Выдатна выдзяляецца тут сучасная архітэктура, якой, як зрэшты і ўсім горадам, заслужана ганарацца шчэціняне. Нас асабліва захапіла тут новае жыллёвае будаўніцтва (здымак). Арыгінальнае і густоўнае!**

## Мінеральныя воды Беларусі

Устаноўлена, што прыкладна на 70 працэнтах тэрыторыі рэспублікі ёсць мінеральныя воды. Яны размешчаны ў раёнах Палескай нізіны, даліне Заходняй Дзвіны, раёне Мінска і некаторых іншых мясцінах.

Часцей за ўсё сустракаюцца хларыдна - натрыевыя воды — яны могуць быць применены для лячэння рэўматызму, нервовай сістэмы рухальнага апарата, страўнікавых захворванняў. Каля Барысава, Магілёва знойдзены сульфатна - магніева - кальцавыя воды. У раёне Ельска ўскрыты фантануючы сера - вадародны гарачы хларыдна - натрыевы расол, блізкі па тыпу да водаў Мацэсты, але пераўзыходзіць іх па ступені мінералізацыі. Пад Мінскам у выніку бурэння знойдзена вада, падобная да той, якая прымяняецца на украінскім курорце Трускавец.

Рэсурсы мінеральных вод Беларусі могуць быць шырока выкарыстаны для лячэбных, прамысловых і цепла - энергетычных мэт.



# ГЛАДЫЯТАРЫ XX ст.

Вечарам 25 верасня на рынгу Чыкагскага парка Комiскі зверападобны Соні Лістон накаўтаваў чэмпіёна свету ў цяжкай вазе Флойда Патэрсона.

На працягу некалькіх тыдняў з дня ў дзень амерыканскія газеты раздувалі ажыятаж вакол прадстаячага матча. Бой жа, запланаваны як 15-раундавая сустрэча працягваўся ўсяго толькі 2 мінуты 6 секунд. Атрымаўшы маланкавы ўдар у скіўцу, Патэрсон рухнуў на памост. Рэферы далічыў да 10, чэмпіён свету так і не змог устаць на ногі. Карона мацнейшага прафесійнага баксёра свету перайшла да 28-гадовага Соні Лістона. Па словах самога Соні, ён навучыўся баксіраваць у турмах, у якіх неаднаразова знаходзіўся за розныя крымінальныя злачынствы.

Абодва баксёры - негры. Па фізічных даных (вага Лістона — 214 фунтаў, Патэрсона — 189) пераможца меў перавагу над сваім тытулаваным праціўнікам. І ўсё ж ніхто не чакаў, што сустрэча закончыцца так хутка. Гэта трэці па скарацечнасці бой у гісторыі сустрэч прафесійных баксёраў - цяжкавагавікоў.

Патэрсон стаў чэмпіёнам свету ў цяжкай вазе ў 1956 годзе. У 1959 годзе ён страціў гэта званне, прайграўшы шведу Йахансону, але на наступны год у паўторным матчы ён узяў верх. Уключаючы апошнюю сустрэчу, Патэрсон правёў 41 бой, з якіх прайграў 3. Лістон выходзіў на прафесійны рынг 34 разы, выйграўшы 33 сустрэчы, з іх 24 накаутам. Агульная выручка ад матча склала рэкордную суму — больш 5 мільёнаў долараў. Асноўную частку барышоў прынёс продаж білетаў у кінатэатры, на экранах якіх па закрытаму тэлевізійнаму каналу паказаўся бой, 266 такіх кінатэатраў было адкрыта на тэрыторыі ЗША і Канады. Двухмінутны кінасеанс абыйшоўся кожнаму гледачу ў 6 долараў. У Комiскі-парк цана білета дасягнула 100 долараў.

Сустрэча баксёраў закончана. Многія амерыканцы шкадуюць, што «дрэнны хлапец», як тут называюць Лістона за яго злачыннае мінулае, атрымаў перамогу над «добрым хлопцам». Другім шкада затрачаных долараў, за якія так мала ўдалося ўбачыць. Але многія і задаволены: сустрэча ж скончылася без цяжкіх пашкоджанняў. Колькі было выпадкаў, калі баксёра ўносілі з рынга проста ў шпіталь.

Жорсткія законы джунгляў пануюць у прафесійным боксе. Вось і цяпер, калі новы чэмпіён свету святкуе сваю перамогу, у Лос-Анжэлосе памірае 25-гадовы баксёр-цяжкавагавік Лаварантэ. Лаварантэ, аргенцінец па нацыянальнасці, пасля накаута быў вынесен з рынга ў непрытомным стане. Яму было зроблена дзве аперацыі, але малады баксёр так і не апрытомнеў. Гэта ўжо другі ў гэтым годзе трагічны выпадак у амерыканскім боксе. Вясной на рынгу загінуў чэмпіён у сярэдняй вазе Бені Парэт.

Некалі гладыятары біліся насмерць, каб пацешыць знатных гледачоў. Гладыятары XX стагоддзя калечаць адзін другога ў імя грашовага мяшка.



ШТО 2 СЕКУНДЫ — 3 НОВЫХ ЛЮДЗЕЙ

## Ад 1 да 2000

**Вучоныя ўсяго свету ў апошніх гадах паднялі трывогу: увага, празмерны, стыхійны ў некаторых краінах натуральны прырост насельніцтва робіць тое, што насельніцтва зямнога шара расце ў вельмі хуткім тэмпе, — непакоіць.**

**Што дзве секунды на свет родзіцца 3 дзяцей. Гэта азначае 30 мільёнаў у год.**

**Калі гвалтоўны тэмп росту не будзе ў час спынены, у 2000 годзе насельніцтва зямлі дасягне звыш 6-ці мільярдаў, значыць падвоіцца на працягу аднаго пакалення.**

**Польшча належыць да перадавых дзяржаў у свеце, калі гаварыць аб праміляx прыросту (праміля — адна тысячная — значыць колькі нараджэнняў выпадае ў год на тысячу насельніцтва). А наш прырост безумоўна б'е рэкорды ў Еўропе. Напрыклад, год 1959: Вялікабрытанія — 5,2 праміля; Італія 9,1; Румынія — 10; Венгрыя — 4,8; а Польшча — 16,3. А ў Польшчы — адным з перадавых ваяводстваў у прыросце з'яўляецца наша Беласточчына.**

**Тэмп росту насельніцтва. На пачатку нашай эры на свеце жыло 250 мільёнаў людзей. За 1600 год лік насельніцтва ўзрос да 500 мільёнаў. Яшчэ за 200 год да звыш 900 мільёнаў. Яшчэ пасля 100 гадоў (у годзе 1900) лік насельніцтва склаў 1550 мільёнаў. У 1950 годзе было нас ужо 2 мільярды 495 мільёнаў чалавек, а зараз звыш 3 мільярдаў.**

**За адных 20 год (ад 1900 да 1920) прыбыло свету новых грамадзян больш (260 мільёнаў), чым за 1600 год ад пачатку нашай эры (250 мільёнаў). І далей, калі на прырост 203 мільёнаў трэба было 10 год (1920 — 1930), то на лік большы — 214 мільёнаў трэба было ўжо толькі 4 гады (1955—1959).**

**Калі ў 1959 годзе на адзін квадратны кіламетр паверхні прыпадала 21 чалавек, то за 40 год будзе прыпадаць 46 чалавек (улічваем тут унутраныя воды, лясы, горы, балоты, пустыні і г.д.)**

**Ці існуе нейкая граніца ў размнажэнні людзей, пераход якой быў бы трагічны? Як сцвярджаюць вучоныя і спецыялісты — яна існуе напэўна. Калі ў цяперашніх умовах яшчэ не з увагі на матэрыяльнае забеспячэнне, дык з увагі на абмежаваную тэрыторыю.**

**Як да спраў натуральнага прыросту адносяцца падобныя дзяржавы? Большасць дзяржаў вядзе інтэнсіўныя намаганні для змяншэння прыросту, абмежавання размнажэння. Гэта адзіны шлях вырвацца з адсталасці. Прыклады найбольш яскравыя — Індыя, Японія, Кітай. У нас справа празмернага прыросту таксама актуальная, і з думкай аб лепшай будучыні нашых дзяцей, аб вышэйшай культуры нашага грамадства мы прапануем неабходнасць рэгулявання нараджэнняў.**

Апрацавала **Вера Леўчук**

## СУЧАСНАЯ СКУЛЬПТУРА?



**Нічога падобнага! Не адкрылі мы, гэтым разам, новага таленту. Творцам гэтай дзівоснай фігуры з'яўляецца найвялікшы майстар — Прырода, а экспанат завецца яшчэ прасцей: Бульба (самая звычайная, выкапаная на белавежскім полі).**

**Фота К. Лес**

Сельская гаспадарка без таямніц

# Як палепшыць якасць кармоў

Ад прыбытку галава не баліць. Так гаворыць старая прымаўка. Калі ўжо ёсць кармы, дык толькі браць і выбіраць. Нявопытны гаспадар скажа: даваць, як ідзе, не шкадаваць, дык і вынікі будуць. Але ці гэта сапраўды так? А можа...

Каб мы як трэба падрыхтавалі корм? Шмат працы? Ну, трэба папрацаваць рукамі і... галавой. Ці варта? Даю гарантыю, што варта. Але ж мы тое-сёе робім! Брава, добра і гэта. А іменна: змешванне кармоў, раздрабненне, развядзенне з вадой, запарванне...

Прапаную яшчэ **дражджаванне.** Што гэта такое? Зараз растлумачу. Калі дражджаванне, значыць, трэба мець дрожджы. Сістэма дражджавання шырока прымяняецца ў Савецкім Саюзе. Жывёлаводы маюць цудоўныя вынікі.

Дрожджы — гэта галоўным чынам бялок і вітаміны (групы В). Калі дададзім іх да кармоў, значыць, павялічым у кармах колькасць бялка і вітамінаў. Значыць, пачнём.

Вазьміце 2 кг кармоў (осыпкі ці мукі) і 200 — 300 г дражджэй. Залійце іх 4—5 літрамі вады, нагрэтай да 35°. Атрымаецца даволі густая маса. Дражджаванне рашчыну працягваецца каля 6 гадзін. Памятайце, што мяшаць трэба кожныя паўгадзіны. Затым у бочку з рашчынам улiваем рэшту кармоў (найчасцей 8 кг мукі ці осыпкі, размешанай у 10—15 літрах вады), пакідаем яшчэ на нейкі час (каля 4 гадзін) і даем жывёле.

Калі наша «рабая» адразу і не разбярэцца, што гэта штосьці новае, дык і так добра аддзякуе, даючы больш малака. Бялка ў нашых кармах не хапае, а па вітаміны для кароўкі таксама да аптэкі не пабяжыш.

А можа хочаце выпрабаваць яшчэ больш мудроную «штучку?» Яе назва — **паляпшэнне кармавых якасцей саломы шляхам... вапнавання.** Так, так — не толькі на палях, асабліва беластоцкіх, так патрэбна вапна. У кармавой гаспадарцы таксама.

Бяром скрыню з перагародкамі. Сыпем туды сечку пластамі ў 30 см, паліваем вадой, а затым густым вапнавым малаком (7 кг вапны на 100 кг сечкі). Два дні корм перамешваем, а на трэці дзень пакідаем нямешаным. На чацверты дзень можна ўжо браць (вельмі добра перамяшаць перад гэтым!) і даваць жывёле.

Паводле В. Н. Кітаева, паляпшэнне кармавой якасці саломы дае вялікую карысць. Дзякуючы гэтаму метаду страўнасць жытняй саломы павышаецца з 35 да 60%, а значыць «варта шкурка вырабу», — як гаворыць прымаўка. А калі варта, дык не трэба гэта закідаць. Трэба нарэшце адважыцца.

Прыклады? Ёсць, але не ў нас. Чаму? Бо на Беласточчыне яшчэ ніхто не ведае гэтых спосабаў. А можа і ведае, толькі не прымяняе.

Думаю, што прыклады будуць. Будзем пісаць менавіта аб вас. Згодны?

**Інж. М. Сухажэбрскі.**

# Трыбуна чытачоў

## Паважаная рэдакцыя!

Мы, дзяўчаты з вёскі Навакорніна, хочам арганізаваць мастацкі гурток. Хочам кіраваць ім самі, самі наладжваць канцэрты. Нам вельмі падабаюцца гурткі іншых вёсак, і мы таксама хацелі б зацікавіцца самадзейнасцю. У склад нашага гуртка ўваходзіла б сем дзяўчат.

Дарагая «Ніва»! Адпішы нам, куды мы павінны накіравацца, каб атрымаць дапамогу ў арганізацыі мастацкага гуртка?

**Ніна Пракапюк**
**Навакорніна**
Гайнаўскі павет

Шаноўная Ніна! Цешымся вельмі, што ў Вашай мясцовасці знайшлася актыўная група моладзі, ахвотная да мастацкай самадзейнасці. Раім Вам навязаць сувязь (асабіста або пісьмова) з інструктарам Верай Юшчук у Павятовым аддзеле Беларускага Таварыства ў Гайнаўцы, які знаходзіцца ў будынку Дома Настаўніка пры вул. Вызвалення (насупраць Беларускага Ліцэя). Там атрымаеце патрэбныя рэпертуарныя матэрыялы, а таксама неабходную дапамогу Вашаму гуртку. Многія песні і гумарыстычныя сцэнкі зможаце выбраць сабе з «Нівы».

Пэўна, і ў іншых паветах маладыя людзі не надта ведаюць, куды падацца ў такіх справах. Дык падаем адрасы аддзелаў нашага Таварыства. Сакольскі аддзел БГКТ знаходзіцца ў будынку гарадской рады нарадовай, пляц Касцюшкі 15. Яго старшынёй з'яўляецца Аляксандр Рафаловіч, прэзэс павятовага камітэта ЗСЛь, а інструктарам — Іван Беразавец. Міхалоўскі Аддзел БГКТ знаходзіцца ў будынку мясцовага Павятовага Дома Культуры, а Бельскі Аддзел Беларускага Таварыства размясціўся ў невялікім памяшканні былога суда пры вул. Міцкевіча (непадалёку ад дома моды). Адкрыты ён штодзень ад 14 да 18 гадзіны, мае багатую бібліятэку. Яго старшыня — Аляксей Карпюк, падінспектар Аддзела асветы і культуры, інструктар — С. Карбоўскі. Аддзел нашага Таварыства на Сямяціцкі павет знаходзіцца ў Мілейчыцах, у мясцовай агранамоўцы, побач Грамадскай Рады. Інструктар — Міхась Вішэнка.

Падаем прытым і адрас Галоўнага Праўлення БГКТ у Беластоку: Zarząd Główny Białoruskiego Towarzystwa. Białystok, ul. Warszawska Nr. 11 (насупраць пошты).

Калі ласка, звяртайцеся — заходзьце асабіста або пішыце пісьмы. У дапамозе ніколі Вам не адмовяць.

(ся)

## Калектыўная праца — лепшая будучыня

(Працяг са стар. 4)
на сельгасгуртка. Найбольш цікавіла справа машын. Аказваецца, на сто тысяч дзяржаўных грошай трэба даплаціць 25 тысяч уласных і тады можна браць на гэтую суму (100 тысяч) машыны. Татарэнка прапанаваў узяць трактар і плугі, бо зараз трэба араць, бо каня гадаваць — гэта не аплачваецца. У дадатку трактар хутчэй узарэ і лепей. Іншыя прапанавалі ўзяць малацілку. Але гэта толькі на пачатак. А пасля самі будзем ведаць, што трэба. Уладзіслаў Шкель даў нават прыклад, што ў Галандыі гаспадары купляюць машыны інакш. Яны збіраюцца ў гурткі па 10 гаспадароў і купляюць машыны, якія ім патрэбны. А чаму ў нас не можна купіць на сорак гаспадароў? Мы ўжо старэем, а маладыя уцякаюць у горад. Каб на старасць пажыць лепей, хопіць хадзіць за плугам.

І вядома, што ўсе гаспадары прызнаюць Шкелю рацыю. Але сельгасгурток у Бацютах - калёніі не арганізаваўся, бо замала было членаў, і наступны сход, які адбудзецца ў лістападзе, павінен арганізаваць сельгасгурток. Аднак гаспадары многа навучыліся. Яны пачулі патрэбу моцнай арганізацыі, той арганізацыі, якая мабілізуе людзей да супольнай працы, бо толькі яна палегчыць нашае жыццё і дасць магчымасць будаваць лепшую будучыню.

**К. Каліна**

## Да чытачоў «ЗОРКІ»

**У мінулым тыдні значная колькасць нашых падпісчыкаў не атрымала «Зоркі» і яны звярнуліся да нас з пытаннямі аб прычыне гэтага. Адказваем: здарылася гэта па віне Беластоцкіх закладаў графічных, дзе друкуецца «Зорка». Як нас паінфармавала кіраўніцтва друкарні, зроблены захады, каб больш гэта не паўтарылася.**

## Вёска адбудоўваецца

У вёсцы Камень (Гайнаўскі павет) жыццё людзей з кожным годам паляпшаецца. Няма ўжо ў вёсцы дамоў з саламянымі стрэхамі, пабудавана шмат прыгожых будынкаў. У хатах грае радыё. Толькі яшчэ няма электрычнасці. Але ўжо слупы прывезены і хутка будуць праводзіць электрычную лінію. Людзі чакаюць, каб хутчэй засвяціліся электрычныя лямпачкі ў іх хатах. У суседніх вёсках яны ўжо даўно свецяць.

**Антон Дзмітрук**
Камень

## Бібліятэка ў Кабылянцы

Вясковая бібліятэка ў Кабылянцы існуе шмат год. Знаходзіцца ў ёй 300 кніжак, з чаго — 180 польскіх, 80 рускіх і 40 беларускіх. Бібліятэкарам з'яўляецца Віктар Палоцкі. Гэта добры бібліятэкар. Ён заўсёды дапамагае выбраць адпаведную кніжку, праводзіць таксама карысную працу з дзецьмі — ў вольных хвілінах расказвае ім байкі або чытае кніжкі.

**Ян Амброжэй**
Кабылянка

## Лес садзім, сцеражэм

У пашырэнні лясоў першараднае значэнне мае выкарыстанне тых абложных і цалінных земляў, якія з'яўляюцца непрыдатнымі сельскай гаспадарцы. Дастаткова сказаць, што ў 1963 г. плануецца на тэрыторыі нашага ваяводства правесці пасадкі лесу на плошчы 3.849 гектараў аблогаў на агульны план пасадак 4.414 га.

Затым будуць строга абмежаваны нормы вырубкі ў так званых сялянскіх лясах да памераў 0,5 кубічнага метра драўніны з аднаго гектара.

(ся)

## «ГОББІ»

Ёсць розныя гоббі людзей. Аднаго ўласніка машыны з Беластока «гоббі» заключаецца ў важэнні сабакі ў багажніку. Каб сабака меў магчымасць, напэўна хоць раз пасадзіў бы свайго гаспадара ў багажнік, прывязаў бы моцна яго, і няхай спрабаваў бы, як гэта добра падчас язды хрыбтом стукаць у пакрышку багажніка.

м. х.



## ТОЛЬКІ ДЛЯ ЗАКАХАНЫХ




**Памажы мне, СЭРЦАЙКА**

«Маю 18 год. І ўжо 4 гады не хаджу ў школу (закончыла 7 класаў). Далей вучыцца бацькі мне не пазволілі. Я асабліва люблю музыку і спеў. Хацела паступіць у «Лявоніху», але там трэба мець музычна-тэатральную школу. Я думаю, што ўжо позна паступіць у гэтую школу, я ж ужо даўно перастала вучыцца.

Дарагое Сэрцайка, не ведаю, што мне рабіць, куды звярнуцца з тым, дзе б можна было вучыцца, я ж так люблю музыку і песні. Дапамажы мне» — піша **Галя** з Бельскага павета

Паважаная **Галя!**

У Беластоку існуе 2 музычныя школы — школа музычна І-шай ступені — вул. Сянкевіча 14 і сярэдняя музычная школа ІІ-ой ступені пры вул. Кілінскага 7. Пры школе музычнай І-шай ступені пры вул. Сянкевіча 14 існуе таксама музычны гурток.

Каб паступіць у гэтыя школы, трэба старацца ў маі — чэрвені, перад пачаткам новага навучальнага года. Экзамены конкурсныя. Экзамены ў такіх школах — гэта праверка музычных здольнасцей. У школах гэтых ужо ў бягучым годзе месцы запоўнены. Але, калі ты сапраўды добра спяваеш, любіш музыку, а найважнейшае, маеш добры слух, раю табе звярнуцца ў сярэднюю музычную школу ў Беластоку, вул. Кілінскага 7, у кожны першы панядзелак месяца, гэта зн. раз у месяц (напрыклад, найбліжэйшы панядзелак 5 лістапада б. г.), дзе будзе прымаць Камісія праверкі музычных здольнасцей. Старайся пайсці туды ў ранніх гадзінах. Камісія гэта праверыць твае музычныя здольнасці і калі акажацца, што ты іх не маеш, дык не будзеш заварочваць сабе галавы.

Жадаем поспехаў. Напішы нам аб выніку.

СЭРЦАЙКА

## Новая крама

Наша крама знаходзілася ў прыватным будынку і была вельмі цеснай, змяшчалася ў ёй мала тавару. Гэта жыхарам вёскі вельмі не падабалася і яны вырашылі пабудаваць новую, вялікую краму. Пры пабудове крамы памагала таксама і наша школа з настаўнікамі. Калі пабудова была закончана, многа жыхароў з нашай і з іншых вёсак прыйшло на прыняцце крамы. Прымалася новая крама вельмі ўрачыста. Цяпер у ёй шмат рознага тавару і людзі ёю задаволены.

**Аляксей Харкевіч**
Ляшукі



# КІНО

**ПРАГРАМА на 11.XI.—18.XI.1962 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Nocny patrol" (radz.), 13—15. „Dziewięć dni jednego roku" (radz.), 16—18.

**Кляшчэлі**
„Śladami bandy" (radz.), 13—15. „Cichy Don" Is (radz.), 16—18.

**Навасады**
„Miłość powraca wiosną" (radz.), 17—18.

**Нараў**
„Miasto bez wody" (radz.), 14—18.

**Нараўка**
„Zmartwychwstanie" IIs (radz.), 14—18.

**Чаромуха**
„Cichy Don" IIs (radz.), 13—15. „Cichy Don" IIIs (radz.), 16—18.

**Чыжы**
„Kołysanka" (radz.), 14—18.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Pokój przychodzącemu na świat" (radz.), 14—18.

**Бранск**
„Lecą żurawie" (radz.), 13—15. „Z iskry rozgorzeje płomień" (radz.), 16—18.

**Гродзіск**
„Kołysanka" (radz.), 17—18.

**Орля**
„Zmartwychwstanie" IIs (radz.), 14—18.

**Райск**
„Mumu" (radz.), 14—18.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Los człowieka" (radz.), 13—15. „Artysta do wszystkiego" (radz.), 16—18.

**Міхалова**
„Mój ukochany" (radz.), 13—15. „Marynarz z Komety" (radz.), 16—18.

**Супрасль**
„Mój ukochany" (radz.), 13—15. „Zmartwychwstanie" (radz.), 16—18.

**Чорна Беластоцкая**
„Jaskółka" (radz.), 13—14. „Bogaczka" (radz.), 15—16. „Żołnierskie serce" (radz.), 17—18.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Szukam mojej dziewczyny" (radz.), 13—15 „Nikt nie zna prawdy" (radz.), 16—18.

**Мілейчыцы**
„Lecą żurawie" (radz.), 13—15. „Marynarz z Komety" (radz.), 16—18.

**Нурэц**
„Śladami bandy" (radz.), 13—15. „Nikt nie zna prawdy" (radz.), 16—18.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Nocny patrol" (radz.), 13—15. „Martwe dusze" (radz.), 16—18.

**Сухаволя**
„Pojedynek" (radz.), 13—15. „Poławiacze gąbek" (radz.), 16—18.

**Шудзялава**
„Bitwa pod piramidami" (radz.), 14—18.

**Янаў**
„Pierwszy lot w kosmos" (radz.), 13—15. „Marynarz z Komety" (radz.), 16—18.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Lekkoduchy i dziewczyna" (radz.), 17—18.

**Новы Двор**
„Burzliwa młodość" (radz.), 17—18.

**Ружаны Сток**
„Życie przeszło obok" (radz.), 17—18.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł kwartalnie — 7.20 łz, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-5-100024
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $. w Europie 5 $ — w USA.
Nakład 5000. Błtk F-1




### У ДОКТАРА

Доктар да пацыента, якому зняў гіпс са зламанай нагі:

— За два тыдні будзеш танцаваць!

— Гэта вельмі добра, — радуецца пацыент, — перад зламаннем нагі я ніяк не мог навучыцца!

Прыслаў **П. Гайдук**

*

### НЕ МАЕ АХВОТЫ

Спаткаліся два знаёмыя:

— Чаго такі сумны?

— На шлюб трэба ісці, ды няма ахвоты.

— А хто жэніцца?

— Я сам.

Прыслаў **Юрка Лішчынскі**

*

### НАСТАЎНІК І ВУЧАНЬ

— Коля, калі ставіцца коска?

— Коска тады ставіцца, калі пакосяць сена.

Прыслаў **Сцёпа Грыгарук**

*

### УНУК

— Дзеду, ты памрэш?

— Памру.

— Закапаюць цябе ў зямлю?

— Закапаюць.

— Глыбока?

— Глыбока.

— Тады буду майстраваць твой матацыкл.

Прыслаў **Васіль Кіндзюк**

*

### ГУМНО

Стаіць раскрытае гумно. Ляжыць у гумне сена і збожжа. Лье дождж. Усё мокрае.

— Чаму ты не крыеш гумна? — звяртаюцца суседзі да гаспадара.

— Як жа крыць, калі дождж падае.

Настала пагода. Свеціць сонца.

— Чаму ты не крыеш гумна?

— Навошта крыць, пагода!

Прыслаў **А. Макаль**




## КУР'ЕЗЫ

### МІСТЭР БУШЭ АДДАЕ ПЕРАВАГУ...

Містэр Жан Бушэ пачаў падрыхтоўку да сусветнай выстаўкі, якая адкрываецца ў Нью-Йорку ў 1964 годзе. На тэрыторыі будучай выстаўкі містэр Бушэ ўзводзіць будынак, у якім будзе змяшчацца шыкарны рэстаран «Францыя» і кабарэ «Казанова», дзе будуць выступаць 40 танцоўшчыц стрыптыза (актрыс, якія распранаюцца ў час выканання танца. — Рэд.) Як заявіў містэр Бушэ карэспандэнтам, лепшымі танцоўшчыцамі стрыптыза з'яўляюцца француженкі і немкі. Для набору трупы містэр Бушэ выехаў у Еўропу. Ён наведае Францыю і Заходнюю Германію, а таксама Бельгію і Італію.

«Юманітэ»



— Зараз, пане дырэктар, зніму мерку на крэсла!..

## ГУЛЬНЯТЭКА

### Ці вы спрытны?




Вы можаце правай рукой нарысаваць лінію з першай ці другой задачы? Можаце? Добра. А левай? Таксама можаце? Цудоўна. А адразу дзвюма? Не выходзіць? То-та! І не можа адразу выйсці. Вось паспрабуйце спярша патрэніравацца на фігурах 1—2, рысуючы іх адначасова дзвюма рукамі ў напрамку, паказаным стрэлкамі, а потым ужо можаце рызыкнуць апаламіць сваіх знаёмых маланкавым выразным выкананнем першай і другой задачы.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе **Ліды Дзмітрук** з Краснага Сяла, Бельскага павета, **Яўгеніі Дземянчук** з Заёнчкаў, Беластоцкага павета, **Марыі Кічкайла** і **Раісы Петрушкевіч** з Масева І, Гайнаўскага павета, а таксама **Лідзіі Матэйчык** з Агароднікаў, Беластоцкага павета, змяшчаем папулярную беларускую песню.

## РУЧНІКІ

У суботу Янка ехаў ля ракі,
Над вадой Алёнка мыла ручнікі.
Пакажы, Алёнка, броды земляку,
Дзе тут пераехаць на кані раку?

Адчапіся, хлопец, едзь абы куды,
Не муці мне толькі чыстае вады.
У маркоце Янка галавой панік,
Упусціла дзеўка беленькі ручнік.

Янка, мой сакole, памажы хутчэй,
Ой плыве, сплывае ручнічок з вачэй!
Мілая Алёна, я вады баюсь,
Пацалуй спачатку, што як утаплюсь?

Супыніўся гнеды пад вярбой густой,
Цалавала Лена Янку над вадой.
Стала ціха, ціха на усёй зямлі,
Па рацэ далёка ручнікі плылі.



— Наш настаўнік робіць на зіму запасік!..

# КРАПІВА

Гляджу, значыцца, на гэтага чалавека і, бачу, ніхто іншы гэта, а Кандрат Крапіва, ды і толькі. Хоць круці гэтага чалавека спераду і ззаду, хоць разглядвай з анфасу і з профілю, з усіх бакоў Крапіва выліты.

І гэтак гляджу на чалавека, які зверху і знізу Крапівой з'яўляецца, а чалавек гэты піша. Сядзіць за сталом і піша. Не звычайна піша, а проста бегае карандашом па паперы. Туды і сюды, бы прусак па стале.

Не інакш, думаю, як смешныя апавяданні піша. Значыцца памылкі няма, гэта сапраўды Крапіва. І па падабенству і па пісанні.

Падыходжу бліжэй і кажу:

— Дазвольце, таварыш, звярнуцца...

Той матнуў галавою ў бок дзвярэй:

— Начальнік у наступным пакоі!

— Мілы чалавек, ніякага начальніка мне не трэба. Шчыра кажучы, без начальства нават лепш сябе адчуваю. Я з вамі, таварыш Крапіва, хацеў бы пагутарыць.

— Смешна выходзіць, — адзываецца ён, — навошта мяне Крапівой называеш, калі я Цыбульскі?

— Не ашукаеш, дружа, выходзіць, пад псеўданімам пішаш. Гэта я разумею. Сёння напішаш, падпішашся, а там табе такое прапішуць, што хоць плач. Пад псеўданімам заўсёды спакайней. Я свой чалавек, Кандратка, ад мяне не скрывайся. Апроч нашай вёскі, ніхто не даведаецца пра нашу сустрэчу.

— Як вас разумець? — спытаў незнаёмы, прыпадымаючы карандаш, бы дырыжор палачку.

— Зразумець не цяжка. Са славутасцямі мы, сяляне, не сустракаемся, а мне, вось, давялося з Кандратам Крапівой сустрэцца... Выбачайце, адрываю вас ад смешнага пісання.

— Нічога тут няма смешнага, прачытаю вам, — запрапанаваў гэты чалавек.

Было гэта заключэнне аб аштрафаванні мяне за антысанітарны стан панадворка.

— Да слёз праймаецe, Цыбулька, — кажу.

— Цыбульскі, — папраўляе мяне гэты грамадзянін.

— Усё роўна. Тэм не хапае, што за мяне ўзяліся?!

— Выходзіць пра вас пішу? — ажывіўся чалавек. — У такім выпадку, калі ласка, да начальніка.

Канец справы не важны. Галоўнае, людзі добрыя, не заўсёды мы разумеем сваю віну і схільныя абвінавачваць іншых за нашы непрыемнасці. А што некаторыя людзі між сабою падабенства маюць, гэта зусім іншая справа.

*Дзядзька Лявон*

(Працяг са стар. 5)

леўстве і таму прыгаварваю цябе на смерць.

— Ну, а ты? — спытаў ён урадніка.

— Я б зрабіў так, як мне мой кароль загадаў бы.

— А калі б я загадаў кінуць грошы ў ваду?

— Кінуў бы, — адказаў рашуча ўраднік.

— Няшчасны ты марнатраўца! Як адважыўся б ты змарнаваць гэткае багацце, калі ў каралеўстве столькі голых і галодных. За гэта прыгаварваю цябе на смерць.

— Твая прафесія? — звярнуўся кароль да апошняга мужчыны.

— Злодзей, — адказаў той.

— Не можа быць месца ў маім каралеўстве для зладзеяў. Калі гэтыя людзі, якія лічыліся дагэтуль чэснымі, маюць быць павешаны, то несправядлівасцю было б, каб выйшаў на вольнасць злодзей. І цябе прыгаварваю на смерць.

Расправіўшыся гэтак з усімі, кароль вокам пераможцы паглядзеў на іх і сказаў:

— Каб вы не мелі сумнення ў тым, які я добры, даю вам перад выкананнем прыгавору суткі часу поўнай свабоды. Ідзіце дамоў і рабіце, што вам падабаецца, толькі не спрабуйце ўцякаць, бо і так вам гэта не ўдасца, а зловяць, загадаю скуру здзерці.

## ЯК ТРЭБА ЖЫЦЬ

Назаўтра рана кароль выбраўся пабачыць, што робяць прыгавораныя на смерць.

Ён зайшоў да рабочага. Але па ім і сляды замяло. Ён знік, як толькі яго выпусцілі.

«Эх, каб я так мог уцячы ад смерці, як гэты рабочы,» — падумаў кароль і пайшоў да купца.

Той сядзеў і плакаў, як бабёр, а ўбачыўшы караля шлёпнуўся перад ім на калені і пачаў прасіць яго аб памілаванні.

— Махляры не звяліся б, каб цябе і павесілі, — сказаў кароль, — але ліха з табой, жыві сабе, — і выйшаў задумёны.

«Калі б я гэтак рабіў, — думаў ён, — возера ўзнікла б ад слёз, якое заліло б паўкаралеўства. Дый толку з гэтага няма».

Так раздумваючы, кароль падышоў да дому мастака і ўжо здалёк пачуў п'яныя крыкі і спевы. У памяшканні застаў ён мастака ў акружэнні прыяцеляў пры застаўленым водкай, вінoм і закускамі стале.

— Што... ужо? — змог толькі прагаварыць мастак і самлеў ад страху. І толькі пасля таго, калі яму далі панюхаць водкі, ён адчыніў вочы.

— П'яніц у маім каралеўстве хапае, але жыві і ты, — сказаў кароль, пакідаючы памяшканне.

«Штучная вясёласць, якая не памагае перамагчы страху перад смерцю. З гэтага прыкладу браць не прыходзіцца», — думаў кароль.

Урадніка кароль не знайшоў жывым. Ён, вярнуўшыся ад караля, павесіўся.

«Ён не стараўся ніколі мудра вырашыць справу, — разважаў кароль, а дбаў толькі аб тым, каб папярэдзіць мае думкі і самагубствам спадзяваўся зрабіць тое самае. Не меў ён свайго розуму — і таму з агня скочыў у жар. Вучыцца ад яго не прыходзіцца».

Злодзея знайшоў кароль у турме. Ён, выйшаўшы ад караля пасля прыгавору, абакраў каралеўскі банк і быў пры гэтым злоўлены.

— Як ты смеў, гад, падымаць руку на маю маёмасць?

— Ты сам, кароль, сказаў мне, як і іншым прыгавораным на смерць, што я магу рабіць усё што хачу. Твае жандармы перашкодзілі мне выканаць тваю волю. Дый лягчэй мне, бо прынамсі ведаю, за што мяне павесяць.

«Праўда, — падумаў кароль, — вось ад каго трэба вучыцца. Маючы ўсяго 24 гадзіны жыцця, ён паступаў так, як бы меў жыць невядома колькі і гэта прынесла яму пацеху.»

— Вон адгэтуль — на ўсе чатыры ветры, ды глядзі не пападайся больш! — загадаў кароль злодзею.

Злодзей, не верачы сваім вушам, хілком прабраўся да дзвярэй і хутка знік за імі.

«Ну, цяпер ведаю, як жыць», — падумаў кароль і, хочучы праверыць, якая гадзіна, ён сягнуў рукой у кішонку па гадзіннік. Але кішэня была пустая. Злодзей, адыходзячы, паспеў адчапіць гадзіннік.

**В. САВА**